Цана асобнага нумару 10 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 43. Вільня, Серада 8 Сьнежня 1926 г. Год II

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

Выходзе два разы ў тыдзень — у сераду і ў суботу нараніцы.

Адрэс Рэдакцыі й Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. — (WILNO, POŁOCKA 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

**Падпіска:**
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы у двая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі.



## ТОЕ САМАЕ.

Паданая асобна ў гэтым нумары вестка аб гутарках пасла Ф. Ярэміча з кіраўніком міністэрства асьветы п. Бартлем патрабуе пэўнага асьвятленьня з нашага боку. Перадусім кідаецца тут у вочы той факт, што п. Ярэміч не па сваей ініцыятыве пайшоў да міністра, а дзякуючы запросінам.

Старшыня Беларускага Клюбу ў гутарках з міністрам заявіў, што Клюб дамагаецца ад ураду споўненьня ўсіх пастулятаў, якія былі клюбам паданы яшчэ вясной. Той ці іншы атказ п. міністра на гэтую заяву, ёсьць ведама, адразу нават часткова не разьвяжа беларускага школьнага пытаньня ў Заходняе Беларусі. Каб магчы зрабіць пэўныя вывады, трэба апірацца на фактах, якія жыцьцё нам прыносе і якія гавораць аб адносінах польскага ўраду да Беларусаў.

Прыпамінаем, як польскі ўрад пасьля далучэньня Віленшчыны ў 1922 г. зачыніў 350 беларускіх пачатковых школ, што ўжо істнавалі на абшарах Віленшчыны, Навагрдчыны і Беласточчыны і зьліквідаваў 2 беларускія сэмінарыі. У гэтым часе м. Пілсудскі быў Начальнікам Польскай Дзяржавы, а п. Бартэль быў у габінэце Міністраў, як міністар чугункі. Крыху пазьней у 1923 г. пачынаюцца напады у Заходняй Беларусі. Абураны народ за свае крыўды і зьдзекі з боку адміністрацыі і паноў ня мог больш цярпець і рукамі адзінак і цэльне арганізаваных групаў пачаў выяўляць свой гнеў! Напады трываюць даволі доўга, улады і польскае грамадзянства ўстрывожаны. Сярод польскіх упраўляючых колаў пачынаюць гаварыць аб зьмене палітыкі адносна да Беларусаў, Украінцаў і Літоўцаў.

Вось як рэзультат гэтае зьмены выйшлі з Сойму г. н. языковыя законы, якія былі апрацаваны і праведзены бяз згоды прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў у Сойме і Сэнаце. Рэзультатам гэтае зьмены польскае палітыкі было толькі тое, што апошнія 22 беларускія школы былі зачынены, або перароблены на польскія ці утраквістычныя.

Што датычыць новых школ, то на аснове языковых законаў дагэтуль ніводная беларуская школа не паўстала, затое за складаньне школьных дэклярацыяў ген. Янушайтіс—Наваградзкі ваявода арыштаваў 1380 Беларусаў і пасадзіў іх у вастрог. Мала таго, міністар Ст. Грабскі павёў паход на Беларускія Гімназіі і хацеў перарабіць іх на утраквістычныя. Толькі дружнае, сьмелае і супольнае выступленьне ўсіх нацыянальных меншасьцяў проці загаду Грабскага не пазволіла міністру перарабіць Беларускія Гімназіі й гімназіі іншых меншасьцяў на польскія.

Ідучы далей спатыкаем "пару маёвага пераварату". Што-ж яна нам дала?

Тое самае, што далі Беларусам усе польскія ўрады. П. Бартэль як старшыня Рады Міністраў толькі дэкляраваў, што ўрад мае кардынальна зьмяніць свае адносіны да тэрытор'яльных меншасьцяў, а фактычна жыцьцё йшло сваёй дарогай пратоптанай і ўплянаванай мін. Грабскім—ніводнай беларускай школы ўрадавай урад Бартля ня адчыніў, хоць дэкляраціі ўжо даўно пададзены!

Мала гэтага, урад Пілсудскага—Бартля не даў дазволу Беларускаму Інстытуту Гаспадаркі і Культуры на адчыненьне нават прыватных беларускіх школ. Гэты-ж самы ўрад ня даў дазволу на Беларускую Сэмінарыю, на коопэратыўна-гандлёвыя курсы і прыслаў адмоўны адказ праз віленскага Куратара на заяву на 6-ці месячныя беларускія вучыцельскія курсы.

І вось, у гэтым часе, калі ўлады ціснуць беларускі культурна-прасьветны рух, на шпальтах польскіх газэт амаль што ня кожны дзень бачым, што там нейдзе ў Варшаве зьбіраўся нейкі ўрадавы камітэт да нацыянальных меньшасьцяў, што ён быццам нешта рабіць і г. д.

Вось, у гэтым самым часе, калі п. Бартэль выпушчае ў сьвет „Крэсавы цыркуляр", калі куратар забараняе вучыцельскія курсы, ягоны начальнік, той самы міністар Бартэль запрашае Старшыню Беларускага пасольскага клюбу да сябе, каб нешта Беларусам даць, а мо на'т даць і тыя курсы якія ўжо куратар забараніў.

Гэта ўжо выглядае больш як на гульню ў палітыку!

Не, Паночкі Бартэлі, відаць ня суджана вам разьвязаць беларускага школьнага пытаньня, бо вы ня можаце зыйсьці са сьцежкі пратаптанай міністрам Ст. Грабскім!

*Адам Асьветны.*

---

## Каталёнскі мэморыял.

Каталёнцы гэта некалькімільённы народ, які знаходзіцца ў граніцах Гішпаніі, а крыху і ў паўднёвай Францыі. Каталёнцы маюць сваю культуру й імкнуцца да свайго вызваленьня.

Гішпанскі ўрад перасьледуе Каталёнцаў, так як Палякі Беларусаў.

Пасол Ф. Ярэміч, які таксама быў у Жэнэве на конгрэсе, нацыянальных меншасьцяў, дзе пазнаёміўся з прадстаўнікамі Каталёнскага Народу.

Нацыянальная сьведамасьць, гарт і культура каталёнскай дэлегацыі вельмі добрае ўражэньне зрабіла на беларускага пасла.

У сувязі з тым, што часьць каталёнскіх эмігрантаў у Францыі гатавалася да паўстаньня проці Гішпаніі і з гэтага мелі ахвоту скарыстаць італьянскія фашысты, каталёнская дэлегацыя падала комітэту конгрэсу нацыянальных меншасьцяў мэморыял, каб гэтакім парадкам зьвярнуць увагу на ненармальнае палажэньне Каталёнцаў пад уладай Гішпаніі. Комітэт конгрэсу пераслаў гэты мэморыял таксама паслу Ф. Ярэмічу, як беларускаму прадстаўніку на конгрэсе нацыянальных меншасьцяў у Жэнэве.

Каталёнская дэлегацыя, каторая ўсе аўтономічныя партыі прадстаўляла на конгрэсе нацыянальных меншасьцяў, які быў сёлета ў Жэнэве зьвярнула ўвагу чуткіх душаў на небасьпечнасьць, якая можа стацца, калі праблема т. зв. меншасьцяў як і тая, што зьвязуецца з каталёнскім пытаньнем, ня будзе справядліва развязана. Мы кажам, што няма таго хто-бы верыў, што каталёнская проблема будзе задушана. Каталёнская дэлегацыя дамагалася на названым конгрэсе грамадзкіх праваў Каталёнцам. Правы гэтыя раней былі падняты на высокую ступень адумысловых гаранцыяў згодна з правам на самаазначэньне.

„Пакуль праўда і грамадзянскія правы людзкія ня будуць у нас ізноў установлены, кажуць Каталёнцы (дэлегацыя) і пакуль мінімум волі для нашага народа ня будзе запэўнена, патуль жарало непарадкаў у нас і вонках нас, каторае робіць небяспечнасьць міжнароднай згодзе і дае столькі клопату дэлегатам у Жэневе, ня высыхне. Справа гэтая ёсьць сур'ёзная з цяжкімі сьледамкамі. Дае яна пачатак таму, што з Каталёнцаў могуць зрабіцца людзі гвалту, хоць яшчэ да гэтага не дайшло, бо было шмат галасоў за тое, каб разьвязаць справу ў згодзе, але малыя здабыткі, якія народ дастаў пад уладай конституцыйнай у Гішпаніі, зьніштожаны былі ваеннымі дыктатарамі.

Толькі прайшло пяць дзён як паўстаў урад генэрала Прымо дэ Рывэра, а быў ужо падпісаны каралём Альфонсам дэкрэт, каторы даў пачатак цэламу сьцягу ўцісьненьняў Каталёнцаў. Апрача агульных мераў уціску, што ўвяла дыктатура, як напр. узмацненьне артыкулу аб цэнтралізацыі, зачыненьні парлямэнтаў, узмацненьні прэсавай цэнзуры, скасаваньні мандатаў паслоў з провінцыі і іх мескіх радцаў і г. д. і г. д. гішпанскі ўрад нарабіў такіх загадаў, што блага прышлося ад іх Каталёнцам. Мова каталёнская была выгнана з грамадзкіх і ўрадавых установаў, а нават тапілі гэтую мову і ў прыватных інстытуцыях. Усе каталёнскія клюбы зачынілі. Забаранілі выстаўляць заўсёгды паважаныя каталёнскія сьцягі і зайшло так далёка, што сталі праследаваць каталёнскія скокі і песьні. Генэральная дырэкцыя школаў забараніла вучыцялём ужываць у школах іншае мовы апрача гішпанскае. Разьвязалі да 200 гурткоў маладзёжы, каторая мела на мэце падтрымліваць каталёнскую культуру. Краскавыя гулі былі забаронены. Болі як 20 каталёнскіх газэтаў было зачынена ў працягу першага году дырэкторыі; ськінулі 15 профэсароў з прамысловага ўнівэрсытэту. Унівэрсыэт гэты быў запоўнены „дэпутатамі з Барсэлёны і з народных комітэтаў". Пасадзілі ў турму болі як 200 бурмістраў, райцаў, генэралаў, якія належалі да статуту аўтономічнага, аб якім мы ўжо гаварылі. З таго часу сталі ціснуць кожнага, хто хоць трохі быў западозраны ў сымпатыі да чагось каталёнскага. Але сталі здарацца выпадкі большай меры. Прававая Рада ў Барселёне была арыштована і выслана; калі яна асьмелілася ўпірацца „яго вялікасьці" ў тым самым дню, як ёй была прыказана ня ўжываць болей роднай мовы. Але дэкрэты аб перасьледаваньні ня стаялі на месьце.

Выпушчаліся каральныя загады, каторыя так далёка заходзілі, што задзержавалі ўсю гаспадарку і вылучалі з праваў грамадзян. Паводле новых разьясненьняў шэфаў дырэкторыі, кожны грамадзянін каталёнскі, калі ён належаў да аўтономічнай партыі, не карыстаўся абароною права.

Каталёнцы згубілі ўселякаю надзею і зьне-

